*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 22 (4171)**

17 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



МІНСК. 15 САКАВІКА 2017 ГОДА



МАНІТОРЫНГ

## Добраахвотна выплачана 4,1 млн рублёў

Паводле вынікаў праверак, праведзеных Міністэрствам па падатках і зборах, органамі фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю ў 2016 годзе, распачата 66 крымінальных спраў, паведаміў намеснік міністра па падатках і зборах **Уладзімір Муквіч**.

Усяго, паводле яго слоў, у КДК для разгляду пытання аб распачынанні спраў падатковымі органамі перададзены матэрыялы праверак 610 дзейных суб’ектаў гаспадарання і 908, якія знаходзяцца ў працэсе ліквідацыі.

Муквіч удакладніў, што ўсяго ў 2016 годзе падатковыя інспекцыі прыцягнулі да адказнасці 54,4 тыс. асоб, 7,4 тыс. пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях было накіравана ў эканамічныя суды і суды агульнай юрысдыкцыі. Паводле яго слоў, міністэрства імкнецца рабіць акцэнт на прафілактычных і папераджальных мерах. Так, у дачыненні да больш як 1,6 тыс. суб’ектаў гаспадарання быў праведзены маніторынг дзейнасці, падчас якога выяўлена каля 1,1 тыс. правапарушэнняў. “У выніку іх ліквідацыі ў бюджэт добраахвотна было выплачана 4,1 млн рублёў”, –удакладніў Муквіч.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Сяргей Мураўёў абскардзіў...

Нагадаем, 27 лютага суд Фрунзенскага раёна Мінска вынес прысуд **Сяргею Мураўёву**, брату не так даўно асуджанага на 11 гадоў бізнесмена **Аляксандра Мураўёва.**

Суд прызнаў Мураўёва-малодшага вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, яго прысудзілі да абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову на тэрмін 2 гады і 6 месяцаў з канфіскацыяй маёмасці, а таксама пазбавілі права займаць арганізацыйна-распарадчыя і адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады на працягу 5 гадоў. Паколькі пад вартай Сяргей Мураўёў знаходзіўся з 1 чэрвеня 2015 года, ён быў вызвалены з-пад варты ў зале суда.

*“Людзі, якія займаюцца справай, бізнесам, магчыма, дапускаюць памылкі,* – пракаментаваў ён затым сваю крымінальную справу. – *Яны кіруюць прадпрыемствамі, ствараюць працоўныя месцы, даюць магчымасць зарабляць на жыццё... Аднак прад’яўленне прэтэнзій па эканамічных пытаннях – не нагода адпраўляць людзей за краты, месяцамі трымаць у турме. За што я сядзеў? Я лічыў, што працаваў правільна, працаваў у інтарэсах дзяржавы... У краіне створана вялікая колькасць пасрэднікаў у пастаўках тавараў па імпарце, у першую чаргу якія давалі магчымасць прадпрыемству працаваць і зарабляць. Аднак такое пасрэдніцтва органам крымінальнага пераследу падалося злачынным”.*

Былы дырэктар СП ЗАТ “РосинтехГрупп” распавёў журналістам таксама, што ў яго планах – *“аглядзецца і пяць гадоў адпачыць ад дырэктарства”.*

– Днямі мы падалі апеляцыйную скаргу ў Мінскі гарадскі суд, – распавёў “Народнай Волі” **Алег МАРЦІНКЕВІЧ,** адвакат Сяргея Мураўёва. – У першую чаргу апеляцыя тычыцца рашэння раённага суда па канфіскацыі маёмасці.

**– Чым зараз займаецца былы бізнесмен?**

– Аднаўляе здароўе і займаецца сям’ёй...

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

УЧОРА

## У судах – аўрал

Учора суды ў Мінску і абласных цэнтрах – Магілёве і Гродне – пачалі разгляд адміністрацыйных спраў, заведзеных на ўдзельнікаў “Маршаў недармаедаў”, якія прайшлі ў гэтых гарадах 15 сакавіка. У Мінску, дарэчы, мерапрыемства было санкцыянавана.

Паводле звестак праваабаронцаў, пасля акцый па ўсёй Беларусі было затрымана больш за 50 чалавек. Некаторых адпусцілі праз некалькі гадзін, але на большую частку склалі пратаколы правапарушэнняў.

У судах многія ўдзельнікі акцый атрымалі ад 12 да 15 сутак арышту.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# ХАПУН: теория и практика

Санкционированная акция 15 марта закончилась позорным хапуном анархистов: люди в черном и голубом без опознавательных знаков набросились на троллейбус, в котором они, анархисты, ехали (обычный троллейбус, маршрутный), и начали силой вытаскивать их оттуда (разумеется, избивая, – как же без этого демонстрировать свое всевластие) и переносить сопротивляющихся в машины тоже неустановленной принадлежности.

Слов нет, по полной программе досталось анархистам, избиение которых за несколько дней до того «теоретически обосновала» государственная пресса.

Вот об анархистах немного и поговорим.

У нас в головах царит картинка, созданная идеологами советского кинематографа: толпа полупьяной матросни под черными флагами и транспарантами, на которых написано «Анархия – мать порядка!». Мрачный подвыпивший Нестор Махно в исполнении Бориса Чиркова ноет песню «Любо, братцы, любо…», а меланхоличный Август Милованов в «Бронзовой птице» заявляет:

– Анархисты-максималисты не признают власти.

Нужно сразу отметить: цитата из наследия крупнейшего теоретика анархизма князя Петра Кропоткина искажена в угоду политической конъюнктуре. Кропоткин говорил: «Анархисты не признают власти как инструмента насилия государства над обществом и общества над личностью».

Вот до тех пор, пока нужно было ниспровергать насилие феодально-буржуазного государства, большевики и считали анархистов союзниками. Кропоткину ведь даже государственные похороны организовали, и имя его вместе с именем Бакунина было увековечено на монументе, установленном рядом с кремлевской стеной – невдалеке от того места, где позже были захоронены останки Неизвестного солдата. А вот когда большевики укрепились и сами начали вовсю применять насилие на государственном уровне, анархисты превратились в опасного оппонента.

Мой университетский преподаватель истории философии Игорь Давыдович Розенфельд недаром говорил:

– Читайте первоисточники! Без теоретической подготовки власть будет совершать ошибку за ошибкой.

Сейчас я добавил бы к его словам: и общество тоже, а власть будет пользоваться ошибками общества.

Что говорит сегодня государственная пресса? Анархистов хватали потому, что они против государства.

Ребята, где же они – «против государства»? Они пришли на санкционированную акцию – санкционированную государством. Действовали в точно той же парадигме, что и представители всех остальных, в том числе незарегистрированных, политических структур – например, «Говори правду!». Но Дмитриева сотоварищи не хватали, а анархистов отметелили по-настоящему.

О том, что никакой силовой акции и противостояния милиции молодые люди, называющие себя анархистами, не планировали, свидетельствует и тот факт, что они не разбежались врассыпную по окончании марша, а мирно сели в государственный троллейбус, заплатили за проезд и уехали. Вы собираетесь выдать их за асоциальные элементы, угрожающие порядку в стране? Простите, не верю!

Очевидно, что силовики, сделавшие упор именно на анархистов, – а вернее, те, кто этот хапун планировал, – использовали стереотипы, сложившиеся в головах не только белорусских телезрителей, но и западных политиков. Для тех «анархизм» – течение, ставшее основой антиглобализма, то есть сопротивление тому мировому устройству, при котором сверхдержавы решают проблемы мира, пренебрегая, по мнению антиглобалистов, правами отдельных государств, а уж тем более личностей. Поскольку право антиглобалистов на протест формально признается, но по сути воспринимается как попытка низвержения устоев, понятно, что к их задержаниям, по мнению нашей власти, мировое сообщество должно отнестись с «некоторым пониманием».

Проблема тут в другом.

Полиция на Западе действительно разгоняет время от времени зарвавшихся (то есть швыряющих дымовые шашки, переворачивающих автомобили, поджигающих дома и т.д.) антиглобалистов. Однако делают это люди в форме, обладающие в глазах цивилизованного сообщества хоть какими-то правами на легитимное насилие. Хапун, осуществленный в Минске людьми в штатском да еще в такой дикой форме, не является в глазах любого демократа легитимным.

Второе. В 2011 году, выйдя на свободу из «американки», я с удивлением узнал, что наши правозащитники не собирались признавать тогдашних арестантов-анархистов политзаключенными. И это при том, что еще до суда Белорусское телевидение мотивировало и деяния, инкриминированные Игорю Олиневичу и его товарищам, и возможный приговор именно теоретическими взглядами арестованных – то есть их политическими убеждениями. О фальсификации этих убеждений теми, кто, простите, называет себя «тележурналистами», даже речи не шло: они, как и милиция наша, Кропоткина не читали. Но и правозащитники не читали. И понадобились невероятные усилия Владимира Некляева и других, чтобы все-таки справедливость восторжествовала.

Это я к чему? Сегодня «штатские» будут безнаказанно метелить анархистов – завтра с таким же успехом будут избивать приверженцев Партии БНФ, ОГП, «Справедливого мира», БСДП и остальных. Поэтому все сторонники демократии должны защищать право анархистов излагать свою точку зрения публично с ничуть не меньшей энергией, чем отстаивают собственное право. Понятно, ни анархисты, ни сторонники других взглядов не должны преступать черту закона.

И последнее.

В докладе двух аналитиков, якобы отражающих мнение кругов, близких к нашему МИД, говорится о том, что силовой разгон акций в Минске и регионах Беларуси планируется в ФСБ. Значит ли это, что министр Игорь Шуневич руководствуется указаниями из Москвы? Или все происшедшее – исключительно результат его собственного, простите за резкость, профессионализма и теоретической подготовки?



АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## Змяненні ў дэкрэт аб «дармаедах» сфармулююць да 1 красавіка

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прапануюць пашырыць пералік катэгорый тых, каго вызваляць ад выплаты збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў. Да дармаедаў не будуць адносіць прызыўнікоў тэрміновай і альтэрнатыўнай вайсковай службы, жанчын, якія знаходзіліся пад медыцынскім наглядам падчас цяжарнасці і родаў, студэнтаў дзённай формы навучання ў год паступлення і заканчэння навучальнай установы, а таксама грамадзян, якія знаходзіліся на псіханеўралагічным дыспансерным уліку.

Тых, хто валодае зямельным участкам незалежна ад яго мэтавага прызначэння і месцазнаходжання.

ЗА КРАТАМІ

## Ці выпусцяць на волю Рымашэўскага, Лябедзьку і Губарэвіча 25 сакавіка?

Паводле звестак праваабаронцаў, пасля “Маршу недармеадаў” у Маладзечне 10 сакавіка было затрымана 15 чалавек. Некаторых адпусцілі, але большасць атрымалі розныя тэрміны адміністрацыйнага пакарання. Сярод тых, хто зараз знаходзіцца на “сутках”, вядомыя апазіцыйныя актывісты – **Віталь Рымашэўскі, Юрась Губарэвіч, Анатоль Лябедзька**. Усе яны атрымалі па 15 сутак арышту.

Дарэчы, каб падтрымаць аднапартыйца, у раённы цэнтр 10 сакавіка прыехала, нягледзячы на зламаную нагу, і дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Ганна Канапацкая**.

*“Ні ў той дзень, ні пасля гэтага я не мела магчымасці пабачыцца з Анатолем Лябедзькам, але праз іншых людзей ён перадаваў усім прывітанне і віншаванні з Днём Волі,* – распавядае Ганна Анатольеўна.

Тым часам, як паведаміў адвакат лідара Аб’яднанай грамадзянскай партыі, **Анатоль Лябедзька** напісаў скаргу па факце свайго затрымання ў Генпракуратуру, а на дзеянні суддзі – у Вярхоўны суд. Таксама склалі скаргу на пастанову Маладзечанскага раённага суда ў Мінскі абласны суд.

*“У камеры з Анатолем 6 чалавек,* – распавёў адвакат. – *У яго драпіны на руках, кажа, што білі па нырках, а таму зараз адчувае дыскамфорт”.*

*“Мы перадалі Анатолю Уладзіміравічу пэўныя рэчы, а таксама “Народную Волю”, як ён і прасіў”,* – дадае прэс-сакратар АГП **Ганна Красуліна.**

Выйсці на волю лідары апазіцыі павінны ў Дзень Волі – 25 сакавіка. Але малаверагодна, што яны змогуць паўдзельнічаць у чарговай пратэстнай акцыі, якая запланавана менавіта на гэты дзень.

*“Па-першае, Анатоля Лябедзьку вінавацяць яшчэ і ў арганізацыі несанкцыянаванай акцыі ў Магілёве 19 лютага,* – кажа **Ганна Красуліна**. – *Таму не выключана, што яму могуць працягнуць адміністрацыйнае пакаранне на “сутках”. Але могуць і 25 сакавіка адпусціць, але ў такі час, калі акцыя ў Мінску ўжо закончыцца”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ГРОДНА, 15 САКАВІКА 2017 ГОДА**

svaboda.org

svaboda.org

Намесніца старшыні гарвыканкама Зоя Кулеша выслухоўвае пратэстоўцаў.

**ФАКТ**

# Насельніцтва ўжо аплачвае 60% кошту паслуг ЖКГ

Да такой высновы прыйшлі спецыялісты Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі, прааналізаваўшы вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны ў 2016 годзе.

У 2017 годзе, адзначаюць эксперты дзяржаўнай даследчай арганізацыі, узровень кампенсацыі насельніцтвам кошту паслуг ЖКГ плануецца давесці да 75%.

Летась павелічэнню гэтага паказчыка спрыяў сярод іншага рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі на 30,5%.

*«Па асобных відах паслуг змяненне тарыфаў характарызуецца наступнымі дадзенымі: у электразабеспячэнні яны павялічыліся на 24%; газазабеспячэнні – на 23,4%; ацяпленні – 32,3%; водазабеспячэнні – на 38,9%; у тэхнічным абслугоўванні – у 1,6 раза»*, – нагадваюць спецыялісты НДЭІ Мінэканомікі.

**СТАЛА ВЯДОМА...**

# Максіма Філіповіча затрымалі, калі ён быў у прамым эфіры

Гомельскаму блогеру, які адбывае 13 сутак арышту за ўдзел у несанкцыянаваным "Маршы недармаедаў", могуць працягнуць утрыманне пад вартай.

Пра гэта "Народнай Волі" паведаміў гомельскі праваабаронца **Леанід Судаленка**, які трымае кантакт з сям'ёй зняволенага.

– Максім Філіповіч быў завочна асуджаны судом за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту, якая прайшла ў Гомелі 19 лютага, – гаворыць Судаленка. – Малады чалавек перадаваў адтуль здымкі, якія трансліраваліся ў інтэрнэце. На судовым пасяджэнні ў дзень разбіральніцтва Філіповіча не было. Яго затрымалі пазней у гэты ж дзень ва ўласным доме ў вёсцы Каранёўка пад Гомелем. За некалькі гадзін да затрымання машына з невядомымі ў цывільным дзяжурыла ля дома, дзе жывуць бацькі Максіма. Сам Філіповіч пра гэта ведаў і свайго затрымання чакаў, нават вёў прамую трансляцыю праз свой акаўнт у "Фэйсбуку". Яго, дарэчы, і затрымалі, так бы мовіць, у прамым эфіры.

Трэба заўважыць, Філіповіча затрымлівў "спецназ", а не звычайныя міліцыянеры ці АМАП. Пры затрыманні да блогера прымянілі фізічную сілу. Пазней высветлілася, што яго привезлі ў ізалятар часовага ўтрымання.

**– Адтуль ён здолеў пазваніць родным?**

– Так. Паведаміў, што пратакол, па якім яго асудзілі, прынеслі прама ў камеру. Для азнаямлення. Самае дрэннае ў гэтай сітуацыі тое, што на Філіповіча складзены яшчэ адзін адміністрацыйны пратакол – за прысутнасць на такой жа пратэстнай акцыі ў Брэсце. Пакуль не вядома, ці павязуць яго на суд у Брэст або будуць прымаць рашэнне завочна. Паводле закона, за адміністрацыйныя парушэнні чалавека нельга трымаць за кратамі больш за 25 сутак. Што будзе далей, стане вядома пасля таго, як Максіма Філіповіча наведае адвакат.

**– Што вядома пра ўмовы ўтрымання Максіма за кратамі?**

– І мне, і родным вядома няшмат. Перадачы для яго прымаюцца – маці з жонкай перадалі яму прадукты. Адзначу, што арышт Філіповіча выклікаў рэзананс у Гомелі. Мяне знайшоў чалавек, які спачувае Максіму з нагоды сітуацыі, у якой той апынуўся, і ананімна папрасіў перадаць сям'і затрыманага блогера 20 беларускіх рублёў. Людзі неабыякавыя да чужой бяды, і гэта абнадзейвае.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**СИТУАЦИЯ**

## Олег ВОЛЧЕК:

# «Как я узнал, что меня будут судить...»

*«Народная Воля» в нескольких материалах рассказывала о привлечении к административной ответственности инвалида Игоря Рылькова. За то, что он якобы ругался нецензурными словами в отношении сотрудников милиции и не подчинялся их законным требованиям пройти в милицию для составления протокола. При этом к нему были применены спецсредства – наручники и физическая сила.*
*Но вот стало известно, что Минский городской суд снял с Игоря Рылькова все обвинения. Благодаря правозащитнику Олегу Волчеку «засветились» ошибки, которые допустили сотрудники милиции при задержании инвалида.*
*И очередная новость: теперь родная милиция намерена привлечь к административной ответственности самого О.Волчека. За участие в мирном собрании граждан, которые протестовали против налога на «тунеядцев».*

Рассказывает Олег Волчек :

– 7 марта 2017 года я обратился к судье Фрунзенского района г.Минска Дмитрию Лукашевичу, чтобы уточнить у него информацию по делу Александра Лапицкого, которого, я считаю, неправомерно отправили в психиатрическую больницу, и случайно узнал, что в отношении меня назначен суд за участие в митинге 17 февраля 2017 года в Минске. Я был ошарашен, так как в моей практике такого не было – чтобы административное дело, возбужденное против меня, рассматривалось без меня.

Получается, сотрудники милиции начали привлекать граждан к административной ответственности заочно. И если бы я не пришел к судье по делу Лапицкого, то, возможно, и процесс по моему «делу» провели бы без меня. Очень напоминает 1937 год, когда «тройки» судили людей, не давая им права на защиту.

Ознакомившись с материалами административного дела, хочу остановиться на некоторых моментах. Думаю, это будет интересно другим гражданам, тем, кто может оказаться в похожей ситуации.

Главный и основной документ, на основании которого человека привлекают к административной ответственности, – это протокол о правонарушении. Он составляется в присутствии лица, которое привлекается к ответственности. Гражданину разъясняются права и обязанности, в том числе право на защиту. Делаются отметки об этом в протоколе. Гражданин имеет право получить на руки копию этого протокола. В случае несогласия он может обжаловать прокурору района.

В протоколе описываются обстоятельства дела, где также все должно соответствовать закону: дата и место его составления; данные должностного лица, составившего протокол; сведения о лице, в отношении которого ведется административный процесс; время, место и обстоятельства совершения правонарушения с указанием статьи, предусматривающей ответственность; фамилии свидетелей; объяснения правонарушителя; прилагается полный перечень документов, которые необходимы для разрешения дела.

Так должно быть по закону! В моем же случае никто меня не опрашивал по делу. Повесток о том, что против меня ведется дело, не получал. Протокол об административном правонарушении составлялся без моего присутствия, а копию до сих пор не прислали, хотя уже скоро суд.

В суде мне все же удалось прочитать протокол, и я понял, что свидетелями выступают сотрудники милиции *Александр Левшунов* и *Артем Дубовик*, которых я никогда не видел и не слышал. Их показания переписаны слово в слово, даже пробелы, знаки препинания одинаково расставлены, что говорит об одном: все документы заранее готовились.

Из протоколов опросов сотрудников милиции:

*«17.02.2017 года во время несения службы по охране общественного порядка на площади Независимости в г.Минске, в период с 19.00 до 19.30 мною было обращено внимание на гр-на Волчека О.К., который принимал участие в несанкционированном массовом мероприятии – митинг, проводимый без разрешения Мингорисполкома, с целью несогласия с налоговой политикой государства, что выразилось в присутствии в составе группы граждан и выкрикиванием лозунга «Жыве Беларусь».*

Вот так известная фраза нашего классика стала экстремистской, так как из-за произнесения ее можно получить арест.

Комментарии, как говорится, не нужны. Все очевидно: милиция формально клепает протоколы, понимая, что ни прокурор, ни суд не выступят в защиту нас, граждан.

Любой административный процесс не исключает возможности защиты личности, ее прав, свобод и законных интересов (*ст.2.1. ПИКоАП*); все лица, участвующие в административном процессе, равны перед законом и имеют право без всякой дискриминации на равную защиту их прав и законных интересов (*ст.2.1. ПИКоАП*).

О том, что ко мне с самого начала милиция подходит предвзято, с обвинительным уклоном, говорит еще один факт. Все дела об административном правонарушении рассматриваются в судах по месту совершения, но в моем случае без каких-либо оснований или пояснений руководства райотдела дело направили в другой районный суд города Минска. Я уже сказал, что случайно узнал о том, в каком суде и кто будет рассматривать мое дело. Тот самый судья, который отправил на принудительное лечение в психбольницу Александра Лапицкого, интересы которого я как правозащитник отстаиваю.

**Степан КУХАРЧИК.**

**КТО ЕСТЬ КТО**

# На каком языке Всеволод Янчевский будет общаться с айтишниками мирового уровня?

*Такой вопрос чаще всего задают на форумах, обсуждая недавнюю новость о назначении Всеволода Янчевского директором Парка высоких технологий. Как известно,* ***Валерий Цепкало****, которого А.Лукашенко отстранил от руководства ПВТ, в совершенстве владел английским и финским.*

Назначение Янчевского главой Парка высоких технологий было ожидаемым. До недавнего времени он возглавлял его Наблюдательный совет.

Как и Цепкало, Янчевский начинал политическую карьеру в 1990-е годы. Вначале Всеволод работал со **Станиславом Шушкевичем**. Как говорит сам Шушкевич, *«Янчевский выиграл мои выборы, был начальником моего избирательного штаба. Он был молод, амбициозен, талантлив и чрезвычайно работоспособен»*.

Затем Янчевский оказался в предвыборном штабе кандидата в президенты Александра Лукашенко, который также победил.

Сегодня все это выглядит странно, но из песни слово не выбросишь. Хотя Шушкевич и Лукашенко оказались как бы по разные стороны баррикад, но и одному и другому когда-то помогал один и тот же человек.

Позже Янчевский возглавлял «Белорусский патриотический союз молодежи», главное идеологическое управление Администрации президента, в 2013 году Янчевский был назначен «смотрящим» за Байнетом.

С февраля 2011-го по февраль 2016 года находился в «черных списках» Евросоюза и был невъездным на территорию ЕС.

На новом рабочем месте Всеволод Янчевский находится уже пару дней. Однако в приемной ПВТ его пока не зовут к телефону. Объясняют, что директор пока занимается организационными вопросами и ему временно не до интервью.

Пока никто из авторитетных представителей IT-отрасли не раскритиковал назначение нового главы ПВТ. А глава компании VP Capital **Виктор Прокопеня**, который два года назад имел серьезные проблемы с правоохранительными органами, а не так давно принимал Лукашенко у себя в офисе, даже поздравил Янчевского с назначением.

*«Назначение на эту должность профессионала – отличный знак для IT-индустрии. IT-индустрия является одной из самых важных составляющих будущего роста страны. У нас большое количество талантливых специалистов и развитая инфраструктура. Я уверен, что мы сможем и дальше так же успешно ее развивать. Я поздравляю господина Янчевского с назначением, и я надеюсь, что мы сможем эффективно взаимодействовать, чтобы развивать индустрию дальше»*, – заявил Прокопеня.

Какой из Янчевского профессионал в ИТ-индустрии, я не знаю. В 1998 году он закончил юридический факультет Белорусского государственного университета по специальности «политика и государственное управление», а в 2000 году – факультет международных отношений БГУ.

На каком языке Всеволод Янчевский будет общаться с айтишниками мирового уровня – покажет время.

**Вера ВИР.**

**ЕСТЬ ВОПРОС!**

# Почему молчат профсоюзы во главе с Михаилом Ордой?

*В стране проходят акции протеста. Лидеры независимых профсоюзов высказались ясно: так называемый декрет о тунеядцах нужно отменить. Не отсрочить его исполнение, а именно отменить.*
*А почему молчит Федерация профсоюзов Беларуси, одной из главных задач которой является повышение уровня жизни и материального благосостояния, защита трудовых и социально-экономических прав граждан?*

«Народная Воля» попыталась получить комментарий по этому поводу в Федерации профсоюзов, но это оказалось не очень простым делом. Ее верхушка не очень охотно идет на контакт. В пресс-службе организации предупредили: мол, от нас ничего не зависит, руководство проинформируем и, если будет комментарий, сообщим.

Но ни развернутого ответа, ни хотя бы экспресс-комментария мы так и не дождались ни от председателя Федерации профсоюзов М.Орды, ни от кого-либо из его заместителей.

**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ**

## Владимир ГОНЧАРИК:

# «Должны поддержать людей»

Бывший глава ФПБ **Владимир Гончарик** буквально на пальцах объяснил «Народной Воле», почему официальные профсоюзы сегодня не поддерживают тех, кто публично выражает свое несогласие с нынешней социально-экономической политикой.

*– Не думаю, что в профсоюзах собрались глупые люди,* – высказывает свое мнение Владимир Иванович. *– Просто верхушка ФПБ полностью подчинена государственной политике. Поэтому не может без одобрения властей сделать шаг влево или вправо. Оттого официальные профсоюзы и молчат.*

Владимир Гончарик уверен, что в любой другой стране профсоюзы обязательно откликнулись бы на подобные акции протеста.

*– На мой взгляд, профсоюзы не должны стоять в стороне от того, что происходит в стране,* – говорит Гончарик. *– Многие люди протестуют, потому что нарушены их права. Понятно, у профсоюзов должна быть четкая социально-экономическая политика. Упрощенно говоря, для профсоюзов главное – оплата труда. Для государства и власти – это производительность труда. Бывает, что интересы государства и профсоюзов совпадают, а бывает – нет. Поскольку сегодня многие выражают недовольство декретом №3, страну сотрясают акции, профсоюзы обязаны были выступить, сказать свое веское слово.*

*В других странах человек, который временно не работает, получает пособие, а в Беларуси его, наоборот, обкладывают налогом. Все это напрямую касается профсоюзов!*

*Я не говорю о том, что профсоюзы все время должны идти на какие-то баррикады, но там, где интересы людей не совпадают с интересами государства (а я убежден, что здесь именно такой случай!), они должны были бы сказать свое принципиальное слово. Тем более я уверен, что среди тех, кто пошел сегодня на улицу, немало и членов профсоюзов.*

*Но тут налицо несовпадение интересов рядовых членов профсоюзов и верхушки ФПБ. И это не делает чести руководству ФПБ.*

**Марина КОКТЫШ.**

**РУБАМ!**

# Ці панясе Юрый Баранчык адказнасць паводле беларускіх законаў?

*Пазаўчора ў Маскве затрымалі шэф-рэдактара аналітычнай службы інтэрнэт-партала Regnum грамадзяніна Беларусі Юрыя Баранчыка. А ўчора абвясцілі, што ён папрасіў палітычнага прытулку ў прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.*

Зараз Баранчык знаходзіцца ў Дарагамілаўскім РУУС Масквы. Беларускія праваахоўнікі падазраюць Баранчыка ў дачыненні да распальвання расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці. Ён затрыманы па просьбе нашага боку. *«У ходзе расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да Сяргея Шыптэнкі, Юрыя Паўлаўца і Дзмітрыя Алімкіна ў рамках крымінальнай справы па ч.3 арт.130 (распальванне варожасці) была ўстаноўлена датычнасць да супрацьпраўнай дзейнасці і грамадзяніна Беларусі Юрыя Баранчыка, які стала пражываў у Маскве,* – пракаментаваў журналістам затрыманне Баранчыка прэс-сакратар Следчага камітэта Беларусі **Сяргей Кабаковіч**. *– Следчы вынес пастанову аб ужыванні да яго меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту і абвяшчэння ў вышук. Цяпер Баранчык затрыманы ў межах аперацыі «Вышук» у Маскве, вырашаецца пытанне аб яго экстрадыцыі ў Рэспубліку Беларусь».*

Шыптэнка, Паўлавец і Алімкін – аўтары Regnuma, іх беларуская праваахоўнікі затрымалі яшчэ ў снежні мінулага года. Каб было зразумела, за што яны трапілі пад крымінальны пераслед (дарэчы, ім пагражае да 12 гадоў зняволення), можна прывесці некалькі цытат з іх шматлікіх артыкулаў на расійскім сайце. Адзін з арыштаваных, напрыклад, пісаў, што *"белорусский язык" "никому не нужен, кроме обезумевшего недогосударства, стремящегося свернуть себе шею на Майдане по примеру соседей"*. Называў нацыю беларусаў *"выдуманной"*. Другі параўноўваў «Дзень вышыванкі», які прайшоў у Мінску 3 ліпеня 2016 года, з прымусовымі мерапрыемствамі часоў нямецкай акупацыі і папярэджваў: *"Старшие поколения, привыкшие жить в великой стране, мыслить эпохами и глобальными проектами, уже лишили будущего, а молодежь с помощью пропаганды и промывания мозгов принуждают узреть во вздувшихся консервах светлую мечту. Дальше падать уже просто некуда. Или мы восстановим страну, воссоединимся (имеется в виду с Россией. – **Ред.**) и возродимся, или будем прокляты навеки, мучительно погибнем и станем назёмом"*.

Зараз следчыя сцвярджаюць, што ўсе гэтыя і іншыя артыкулы пад псеўданімамі «Мікалай Радаў», «Павел Юрынцаў», «Ала Бронь» і «Артур Грыгор'еў» Шыптэнка, Паўлавец і Алімкін пісалі па замове Баранчыка і атрымлівалі за іх грошы.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**ДАСЬЕ**

Юрыю Баранчыку 45 гадоў, ён нарадзіўся ў Мінску. У1994 годзе скончыў філасофскае аддзяленне БДУ. Мае ступень кандыдата філасофскіх навук. У біяграфіі, змешчанай на ўласным сайце Баранчыка, сцвярджаецца, што пасля заканчэння ВНУ ён выкладаў філасофію, потым працаваў у розных беларускіх уладных структурах – ад Міністэрства адукацыі і МЗС да Адміністрацыі прэзідэнта. У 2006 годзе Баранчык з'ехаў у Маскву, дзе ўвесь гэты час працаваў на расійскіх сайтах "Империя" і Regnum.

Дарэчы, што тычыцца хадайніцтва Баранчыка аб прадастаўленні яму палітычнага прытулку ў Расіі, то яго адвакат патлумачыў: *«Гэта азначае, што кампетэнтным органам РФ трэба будзе разам з рашэннем пытання аб экстрадыцыі Баранчыка ў Беларусь вырашыць пытанне па сутнасці дадзенага хадайніцтва».*

**ФЕСТЫВАЛЬ**

# Які смак у Францыі?

Кожную вясну краіна, прызнаная заканадаўцай кулінарнай моды, праводзіць сусветны фестываль «Смак Францыі». Мінск таксама ўключыўся ў гэтае баляванне выдатнага гастранамічнага густу. Спадар Дзідзье Канес, пасол Францыі ў Беларусі, правёў прэс-канферэнцыю на тэму маючага адбыцца гастранамічнага марафона, які распачнецца 21 сакавіка і працягнецца да канца тыдня. У ім возьмуць удзел больш за 2000 шэф-кухараў на 5 кантынентах, сказаў Дзідзье Канес, у тым ліку шэфы з 11 лепшых рэстаранаў Мінска, Брэста і Гомеля: «Залаты грабеньчык», «Авіньён», «Café de Paris» і іншых.

На прэс-канферэнцыі пасол абвясціў пераможцаў кулінарнага фотаконкурсу, які ладзіла амбасада напярэдадні гастранамічнага фестывалю «Смак Францыі». Першае месца аддадзена здымку Андрэя Маісейкава з Гомеля «Жаба аліўе + селядзец пад футрам». Такая вось беларуска-французская дружба.

**Алена МАЛОЧКА.**



**ЧУЛІ?**

# Можа з'явіцца абавязковая страхоўка ад беспрацоўя

З такой ініцыятывай выступае Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі. Ведамствам ужо падрыхтаваны і перададзены ва ўрад адмысловыя прапановы. Называюцца яны прапановамі па абароне грамадзян, якія страцілі працу. Адно з новаўвядзенняў, якое ініцыруе Мінпрацы, – увядзенне абавязковага страхавання ад беспрацоўя. Плаціць яго ў Фонд сацыяльнай абароны будуць і работадаўцы, і самі работнікі. А калі чалавек згубіць працу і зарэгіструецца ў службе занятасці, то на працягу шасці месяцаў зможа атрымліваць 60% ад свайго заробку.

*– Мы прапічылі, што штомесячны ўзнос павінен складаць 0,5% ад фонду аплаты працы,* – заявіў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Такун. *– Пры гэтым прапануем плаціць гэтую суму кожнаму пароўна: і наймальніку, і работніку. Гэта значыць, што работнік замест 1% у ФСЗН павінен будзе плаціць 1,25%. Мне здаецца, што гэта неістотнае павелічэнне, улічваючы тое, што чалавек атрымлівае рэальную абарону ад беспрацоўя. І наймальнікі, думаю, таксама будуць не супраць, паколькі гэта здыме з іх пэўны груз сацыяльнай адказнасці за звольненых работнікаў.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

# Шукаем інвестара...

*Да 2035 года ў Мінскім раёне плануюць стварыць завод па спальванні смецця, паведаміў начальнік упраўлення ДУ «Аператар другасных матэрыяльных рэсурсаў»* ***Анатоль Шагун.***

*– Мы выдатна разумеем, што такі аб'ект дарагі і рэалізаваць яго за кошт бюджэтных сродкаў даволі праблематычна,* – цытуе БелаПАН чыноўніка. *– Распрацоўшчыкі стратэгіі прапанавалі варыянт прыцягнення замежнага інвестара, магчыма, з беларускім удзелам, на конкурснай аснове.*

Паводле слоў Шагуна, неабходнасць такога прадпрыемства ў сталічным рэгіёне абумоўлена тым, што тут сканцэнтравана 20% насельніцтва краіны, а магчымасць свабоднага захавання вялікай колькасці адходаў (да 1 млн тон у год) абмежавана. Чыноўнік таксама адзначыў, што будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю такога завода ў адпаведнасці са стратэгіяй плануецца пасля 2020 года. Выбар пляцовак пад будаўніцтва такога завода будзе праводзіцца ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, з улікам усіх неабходных экспертыз і разлікаў.

Паводле слоў Шагуна, меркаваная магутнасць прадпрыемства складзе 500 тыс. тон адходаў у год, аднак канчаткова гэта вызначыць інвестар.

**ТЭНДЭНЦЫІ**

# Вы не хочаце купіць дачны домік?

У мінулым годзе недарагія дачы пад Мінскам былі нарасхват. А ў гэтым, адзначаюць рыэлтары, нягледзячы на раннюю вясну і сухія дарогі, попыт на дачныя домікі значна ўпаў.

– Дачы ў гэты перыяд заўсёды былі запатрабаваны, добра прадаваліся, – кажа дырэктар агенцтва нерухомасці «Загарадны дом» **Уладзімір Чарнушэвіч.** – У гэтым годзе – самы крызісны сезон, найцяжэйшы і правальны. Нават калі людзі купляюць дачу, то толькі пасля таго, як нешта прададуць. Напрыклад, прадалі сваю дачу, дадалі пару тысяч і купілі новую. Або кватэру прадалі, а дачу купілі. Але чыстых пакупак мала. Асаблівасць цяперашняга сезона і ў тым, што нават самую танную дачу глядзяць па некалькі разоў, гандлююцца, чакаюць і не спяшаюцца купляць.

**СТАЛІЦА**

# За 2,9 мільёна долараў

*«Белгазпрамбанк» набыў тры вытворчыя корпусы станкабудаўнічага завода ў цэнтры Мінска па вуліцы Кастрычніцкай. Банк плануе рэалізоўваць там выключна сацыяльна-культурныя праекты.*

Паколькі «Белгазпрамбанк» быў адзіным удзельнікам аўкцыёну, то ён набыў тры лоты па пачатковай цане, павялічанай на 5%. У выніку тры вытворчыя корпусы агульнай плошчай 6158,3 кв. метра абышліся банку ў 5,65 млн рублёў (2,95 млн долараў).

Паводле закона, у будынку на Кастрычніцкай, 16 могуць быць размешчаны толькі адміністрацыйна-дзелавы, культурна-асветніцкі або гандлёва-бытавы цэнтр, паколькі ён мае гісторыка-культурную каштоўнасць. Зносу будынак не падлягае, яго можна толькі рэстаўраваць.

**ЖАХ!**

# Пасварыўся з маці і... забіў

У праваахоўныя органы Салігорска паступіла паведамленне аб знікненні 49-гадовай жанчыны. Яна не выйшла на працу і не адказвала на тэлефонныя званкі калег. Калі праваахоўнікі ўзламалі яе кватэру, знайшлі там яе цела з множнымі колата-рэзанымі ранамі.

Як паведамілі ў Следчым камітэце, адпрацаваныя версіі дазволілі хутка ўстанавіць чалавека, які быў датычны да здзяйснення злачынства. Ім аказаўся... сын забітай жанчыны. Малады чалавек 1989 года нараджэння раней быў судзімы за захоўванне наркотыкаў.

На першапачатковым этапе расследавання ўстаноўлена, што хлопец перыядычна пражываў у маці. Калі ён без дазволу зняў з яе банкаўскай карткі грошы, паміж імі адбыўся канфлікт. У выніку сваркі сын нанёс маці мноства нажавых раненняў. Пасля малады чалавек зачыніў на ключ уваходныя дзверы кватэры і з'ехаў у Мінск, дзе і быў затрыманы на наступны дзень пасля здзяйснення злачынства.

Комплекс следчых дзеянняў па вызначэнні ўсіх абставін злачынства працягваецца.

**ОСОБЫЙ СЛУЧАЙ**

# Пенсию платила Россия, а вернуть хочет Беларусь?

*Минчанка София Радкевич обратилась в «Народную Волю», чтобы публично высказать свое негодование. Белорусские чиновники обвинили ее в том, что она безосновательно получала пенсию своего умершего мужа – гражданина России. Женщина пытается доказать, что казус произошел не по ее вине, и отказывается возвращать деньги.*

На первый взгляд все в этой истории предельно ясно: взяла то, что тебе не принадлежит, – верни! Но при более детальном изучении понимаешь, что ситуация непростая, даже у юристов нет единого мнения на этот счет.

Но обо всем по порядку.

## «Я сразу же обратилась в посольство России»

32 года София и Константин Радкевичи прожили в России, на Дальнем Востоке. В конце 1980-х молодая семейная пара белорусов уехала работать в Тынду – столицу БАМа, и, когда в 1990-е развалился Советский Союз, София оставила за собой белорусское гражданство, а Константин решил взять российское – так было удобнее для работы и для решения бытовых вопросов.

*– Мы всегда знали, что доживать старость будем на родине, в Беларуси,* – рассказывает София Владимировна. *– Как только Константин вышел на пенсию, вернулись в Минск.*

Константин Радкевич как гражданин России получал российскую пенсию. Поскольку между Российской Федерацией и Республикой Беларусь существует Договор о сотрудничестве в области пенсионного обеспечения от 24 января 2006 года, проблем не возникало. Раз в квартал на карточку Радкевича, оформленную в «Беларусбанке», перечислялась пенсия: поступавшие на его счет из России деньги конвертировались в белорусские рубли. Посредником между Пенсионным фондом Российской Федерации и гражданином Радкевичем являлось управление соцзащиты Московского района Минска.

*– Я никогда не спрашивала, сколько у мужа денег на счету,* – говорит София Владимировна. *– Так было заведено в нашей семье. На мою пенсию жили, его откладывали, когда надо было, деньги он всегда снимал.*

9 октября 2015 года Константин Радкевич умер. Проблемы со здоровьем в последние годы возникали часто, Константин Константинович перенес инфаркт, но смерть всегда наступает внезапно. Денег на похороны у овдовевшей Софии не было.

*– «Гробовые» я могла получить только в России, а своих сбережений не имела,* – слезы накатываются на глаза Софии Владимировны. *– Пришлось брать в долг у знакомых, дочка приехала из Тынды, сын немножко помог, хотя сами знаете, как живут сегодня белорусы – от зарплаты до зарплаты. В семье сына двое детей, мы все вместе ютимся в нашей квартирке площадью 49 квадратных метров. Но мужа похоронили достойно.*

Константин Радкевич умер в субботу, а уже в понедельник, 12 октября, София Владимировна обратилась в Российское посольство с заявлением о его смерти. Позже, когда начнутся судебные слушания, консульский отдел Посольства Российской Федерации в Беларуси подтвердит эту информацию, а также уведомит, что 19 октября 2015 года «по дипломатическим каналам связи был направлен в МИД России список граждан Российской Федерации, умерших на территории Республики Беларусь, и в том числе паспорт гражданина Радкевича Константина Константиновича, выданный отделом УФМС России по Амурской области в г.Тынде, и Свидетельство о смерти».

*– Мне казалось, что я делала все правильно: сообщила в компетентные органы о смерти мужа,* – говорит София Радкевич. *– Почему я должна была идти в районное управление соцзащиты и предупреждать там кого-то о смерти мужа? Пенсию-то ему назначали в России! Уже позже, когда я стала изучать законы, то выяснила, что, согласно договору между нашими странами о пенсионном обеспечении, «уполномоченные органы обеих стран сотрудничают непосредственно по всем вопросам соцобеспечения». То есть Пенсионный фонд России и наш Фонд соцзащиты должны сами регулировать, кто и какую пенсию получает. В Договоре есть статья, согласно которой эти органы должны проводить в конце года сверку получателей российской пенсии в Беларуси. И если бы в декабре 2015 года это было сделано, я не попала бы в эту ситуацию. А теперь наши чиновники пытаются всю ответственность переложить на меня.*

Что же произошло?

Спустя полгода после смерти мужа София Радкевич вступила в права наследства, и в мае 2016 года сняла все сбережения мужа с банковского счета.

*– Долги надо было возвращать. Детям отдала часть суммы, все же это было наследство их отца,* – вздыхает она. *– Сумма была вроде и немаленькая, но меня это нисколько не смутило, зная, как экономно мы жили и живем.*

В июне 2016-го Радкевичам позвонили из управления соцзащиты Московского района Минска с вопросом, где Константин Радкевич. Оказывается, все время после его смерти российская сторона перечисляла ему пенсию. Спохватились органы соцзащиты, причем с белорусской стороны, когда 2 июня из России пришла очередная сумма денег (пенсия Константина Радкевича за второй квартал 2016 года), а счет-то аннулирован, зачислять деньги некуда. Тогда же выяснилось, что до закрытия счета на него уже после смерти Константина Радкевича были перечислены еще два платежа – пенсия за четвертый квартал 2015 года и за первый квартал 2016-го. В сумме – более 20 миллионов неденоминированных рублей (или 2038 рублей 67 копеек «новыми»).

Органы соцзащиты потребовали от Софии Радкевич эти деньги вернуть.

## «Чиновники работали абы как, а мне теперь отвечать?»

*– В управлении соцзащиты мне пригрозили судом, если я не верну эти 20 миллионов до 1 декабря 2016 года, причем сначала грозили уголовным делом: мол, я скрыла от них факт смерти мужа. Успокоились только тогда, когда я показала копию свидетельства о смерти, выданную российским посольством,* – плачет София Владимировна. *– Все мои объяснения чиновники игнорировали, и в августе 2016 года комиссия по назначению пенсий администрации Московского района Минска приняла решение взыскать с меня эти деньги и вернуть их в Пенсионный фонд России. Но просила ли их об этом российская сторона?! Никто мне на этот вопрос не ответил.*

Добровольно возвращать деньги София Радкевич отказалась, тогда управление соцзащиты обратилось в суд с гражданским иском о взыскании денег. Дело рассматривалось в суде Московского района Минска 9 января 2017 года. Суд принял сторону управления соцзащиты. Судья П.Антипчук, ссылаясь на белорусское законодательство, посчитала, что деньги были «неосновательно приобретены» и поэтому должны быть возвращены потерпевшей стороне. Кроме того, Софию Радкевич обязали вернуть истцу – управлению соцзащиты Московского района – госпошлину. А это еще 101 рубль 93 копейки.

Естественно, что с таким решением суда София Владимировна не согласилась.

*– По логике, потерпевшая сторона – Россия,* – возмущается она. *– Однако в суде представителей России не было, доверенности от российской стороны у наших чиновников тоже не было. Получается, что пенсию платила Россия, а вернуть хочет Беларусь?! Я сразу же после смерти мужа уведомила Российскую Федерацию, что Константин Радкевич умер. Почему я должна отвечать за тех чиновников, которые не выполняли надлежащим образом свою работу? Может, надо эти деньги взыскивать с тех чиновников, которые были обязаны своевременно сообщить в Пенсионный фонд России, что мой муж умер?! Может быть, потому у российской стороны ко мне и нет претензий? Тогда почему я должна что-то возвращать Беларуси? Бюджет нашей страны от этой ситуации не пострадал.*

София Радкевич подала кассационную жалобу в Минский городской суд. Стоит отметить, что кассационный протест поддержала и прокуратура Московского района столицы. Заместитель прокурора района К.В.Скурчинская в Дополнении к кассационному протесту просила Городской суд решение Московского районного суда отменить и направить дело на новое рассмотрение. Прокурор обратила внимание на то, что *«при судебном рассмотрении не учтен тот факт, что сумма пенсии выплачивалась из средств Пенсионного фонда Российской Федерации. При указанных обстоятельствах судом надлежащим образом не определен круг заинтересованных в исходе дела лиц, а также лицо, в пользу которого подлежит взысканию пенсия, необоснованно полученная ответчиком»*.

Однако Минский городской суд оставил решение суда первой инстанции в силе.

*– Я, конечно, не согласна с таким решением и буду его дальше обжаловать* – говорит София Владимировна. *– Ничего умышленно или, как они пишут, неосновательно, я не приобрела. Откуда мне было знать, что на карточке лежат лишние деньги?! Куда смотрели чиновники?! Это их работа – следить за тем, как и кому начисляется пенсия. Они за это получают зарплату. Все, что от меня требовалось, я выполнила, компетентным органам сообщила о смерти мужа через два дня. Почему теперь меня хотят сделать крайней?*

## Комментарий юриста

Прокомментировать эту непростую ситуацию мы попросили экс-судью Конституционного суда, доктора юридических наук, профессора **Михаила Пастухова.**

– На мой взгляд, в данном случае имела место халатность в действиях российской стороны, которая своевременно не информировала белорусскую сторону о смерти российского гражданина, проживающего на территории Беларуси, и не прекратила в его адрес выплату пенсии, – считает юрист. – В свою очередь, работники органов социальной защиты Минска должны были вести более тщательный контроль за своими клиентами, в том числе пенсионерами из России. В результате – «стрелки» перевели на жену умершего пенсионера. Ей были предъявлены требования о выплате неосновательно полученных сумм.

Однако по действующему законодательству иск о взыскании имущества из незаконного владения может предъявить только собственник имущества или уполномоченное им лицо. Управление соцзащиты Московского района Минска не являлось таким уполномоченным лицом (во всяком случае, по утверждению Софии Радкевич, в суде такого рода документы не предъявлялись). Получается, что в судебном процессе участвовал ненадлежащий истец. Это основание для отмены решения в вышестоящем суде, в том числе в порядке надзора (ст.448 ГПК).

Способом решения проблемы может быть обращение С.Радкевич в Пенсионный фонд России. Пусть там решат судьбу излишне перечисленных средств и направят соответствующее письмо в адрес С.Радкевич и суда Московского района Минска. Их решение должно быть принято во внимание и может послужить аргументом для пересмотра судебного постановления.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**ЗАКУЛІССЕ**

## Анатоль АЛАЙ:

# «Ніякай палітычнай кан'юнктуры тут няма»

*Вядомы рэжысёр Анатоль Алай атрымаў заказ на серыю дакументальных фільмаў пра тых, хто намінаваны на Дзяржпрэмію ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Зрабіць кіно пра выдатных асоб Алаю даручыў А.Лукашэнка падчас нядаўняй сустрэчы з дзеячамі культуры і мастацтва ў Вялікім тэатры. «Народная Воля» пацікавілася, ці прыняў* ***Анатоль Алай*** *прапанову прэзідэнта.*

Здарылася так, што менавіта Анатолю Алаю давялося выслухаць моцную крытыку наконт таго, што за апошні час беларускія кінематаграфісты не здолелі стварыць такі фільм, на які народ валам валіў бы.

– Я сказаў, што магу адказваць толькі за дакументальнае кіно, – *распавёў Анатоль Іванавіч "Народнай Волі"*. – А іграваыя фільмы – гэта не да мяне.

Што тычыцца дакументальных стужак, дык не было ніводнага міжнароднага фестывалю, з якога мы не прывозілі б прызы!

Але я данёс да кіраўніка дзяржавы сваю думку наконт таго, што кіно павінны здымаць прафесіяналы. А сёння робіцца так: рэжысёр адзін фільм заваліў – яму даюць другі. Другі заваліў – здымай наступны. Ну і адкуль пры такім падыходзе шэдэўрам узяцца? Давайце заказы прафесіяналам і атрымаеце добрае кіно! І студэнты павінны круціцца каля прафесіяналаў – навучыліся б працаваць, была б пераемнасць. Тым больш старая кінематаграфічная школа ў нас вельмі моцная.

Прэзідэнт прапанаваў мне зрабіць фільм пра кожнага наміnanта, і я пагадзіўся.

Днямі якраз быў у Міністэрстве культуры на сходзе, прысвечаным гэтаму пытанню. Намеснік міністра культуры **Ірына Дрыга** цікавілася, якія ў мяне ёсць меркаванні з гэтай нагоды. Я сказаў, што буду пісаць сцэнарыі фільмаў разам з журналістам **Ігарам Асінскім**. Мы ўжо, дарэчы, падрыхтавалі пашыраную заяўку.

Плануецца, што ўсяго будзе знята восем дакументальных стужак – пра кожнага з намінантаў. У гэтым годзе да снежня трэба зняць тры, і ў наступным годзе – яшчэ пяць. Думаю, у першую чаргу буду здымаць фільмы пра кампазітара **Уладзіміра Кандрусевіча**, пісьменніка **Міхася Пазнякова** і, можа быць, пра скульптара **Генадзя Буралкіна**.

Зараз ідзе ўзмоцненая распрацоўка сцэнарыяў, знаёмства з кожным намінантам. Рабіць фільмы трэба будзе хутка і якасна.

Шчыра кажучы, для мяне гэта ганарова. Ніякай палітычнай кан'юнктуры тут няма. Я быў сведкам, як Аляксандр Лукашэнка гаварыў **Міхаілу Мясніковічу** і дырэктару Вялікага тэатра **Уладзіміру Грыдзюшку** аб тым, што далёка не ўсе знаёмыя з творчасцю тых, хто намінаваны на Дзяржпрэмію ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Трэба расказваць пра гэтых людзей. І я згодны з такім падыходам. Я ўвогуле прыхільнік таго, каб як мага больш фільмаў здымалася пра выдатных беларусаў. І рады, што буду рабіць кіно пра тых, каго сапраўды паважаю.

**ПАЙМЕННА**

# Хто сярод намінантаў?

Народныя артысты **Анастасія Масквіна, Ніна Лямановіч, Сяргей Франкоўскі**, заслужаныя артысты **Аксана Волкава і Станіслаў Трыфанаў**, мастак **Аляксандр Касцючэнка** выдвінуты на Дзяржпрэмію за значныя творчыя дасягненні ў развіцці музычнага мастацтва, прапаганду духоўных каштоўнасцяў і значны асабісты ўклад у пастаноўку опернага спектакля на музыку **Дзмітрыя Смольскага** "Сівая легенда" паводле аповесці **Уладзіміра Караткевіча.**

Кампазітар **Уладзімір Кандрусевіч** намінаваны на Дзяржпрэмію за значныя дасягненні ў галіне тэатральнага і музычнага мастацтва, стварэнне музыкі да балета «Мефіста» і мюзіклаў «Шклянка вады», «Джулія», «Соф'я Гальшанская», «Байкер».

За стварэнне серыі кніг і альбомаў пра жыццё і творчасць дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі на Дзяржпрэмію прэтэндуе заслужаны дзеяч мастацтваў **Барыс Крэпак**.

Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі **Міхаіл Пазнякоў** намінаваны за стварэнне кніг для дзяцей «У родным краі», «Гульняслоў», «Серабрыстыя чайкі».

За стварэнне цыкла дакументальных фільмаў пра Вялікую Айчынную вайну намінаваны на Дзяржпрэмію заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі **Анатоль Алай.**

Заслужаны артыст **Аляксандр Крамко**, народны артыст **Міхаіл Казінец** і кампазітар **Ларыса Сімаковіч** вылучаны на Дзяржпрэмію за стварэнне канцэртаў-спектакляў тэтралогіі «Святое, незабыўнае...».

За стварэнне мемарыялаў і скульптурных груп памежнай тэматыкі ў перыяд з 2004-га па 2011 год на суісканне дзяржпрэміі вылучаны творчы калектыў у складзе скульптара **Генадзя Буралкіна**, скульптара-архітэктара **Валянціна Занковіча** і архітэктара **Сталіна Федчанкі**.

Пасмяротна намінаваны на Дзяржпрэмію народны артыст Беларусі **Расціслаў Янкоўскі**.

**Марына КОКТЫШ.**

